ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

№ 19 (2598)
ПЯТНІЦА
12
мая 1972 г.
Выдаецца з 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

50 год утварэння СССР

**Латвія... Край сівой гераічнай даўніны і слаўнай сацыялістычнай явы, радзіма адважных рыбакоў і майстроў-умельцаў, вядомых свету песняроў і авеяных славаю рэвалюцыйных стралкоў. Суседка наша, Латвія! Мы былі з табой разам у радасці і горы, у справах мірных і баявых. І калі на зямлі нашы прыйшла чорная фашысцкая навала, народы Беларусі і Латвіі былі поплеч. Беларусь-партызанка ніколі не забудзе брэтоў-латышоў, якія змагаліся супраць фашызму ў адных з намі шэрагах, адных атрадах і аддалі жыццё ў барацьбе за вашу і нашу свабоду.**

**Мы разам сёння, будзем разам заўтра і заўжды—у адной сям'і народаў вялікага Савецкага Саюза. Мы радуемся вашым поспехам, браты латышы, мы з любоўю слухаем песні і казкі вашай янтарнай краіны.**

**Сёння ў нас у гасцях—Латвія, яе празаікі і паэты, яе мастакі і скульптары.**



Хочаце зразумець характар народа —паглядзіце яго танец... Фота Г. ЯНАЙЦІСА.



...І глядзіцца Рыга ў светлыя хвалі Даўгавы. Фота Ул. КРУКА.

На сардэчныя клопаты Райніса беларусы адказвалі любоўю і павагай. Гэта праявілася асабліва ярка ў час прыезду Яна Райніса ў Мінск у 1926 годзе.

Смерць вялікага друга беларусаў і заступніка іх была цяжкім горам і для Мінска, і для Рыгі. Пахаванне яго вылілася ў палітычную дэманстрацыю латышскіх беларусаў — яны выйшлі на вуліцы Рыгі аб'яднанай калонай.

Значна багацейшы быў плён беларуска-латышскіх сувязей у Савецкай Беларусі. У 20—30-я гады ў літаратурных выданнях тут публікуюцца артыкулы пра латышскую літаратуру і, менавіта, пра Я. Райніса, А. Упіта, Л. Лайцана, А. Курцыя. Асобнымі кнігамі выданы былі «Заклікаючыя карпусы» і «Лімітрофія» Л. Лайцана. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выдавала творы латышскіх аўтараў таксама і на латышскай мове.

У 1933 годзе часопіс «Целтнэ» камандзіруе на Беларусь брыгаду пісьменнікаў: Л. Лайцана, К. Прыедніека, П. Кікута, Э. Фроса. Брыгада наведала латышскія школы на Беларусі, наладжвала літаратурныя вечары, цікавілася культурным жыццём рэспублікі. Дзе б ні былі латышскія пісьменнікі, іх усюды сустракалі з вялікай сардэчнасцю, з сапраўды беларускай гасціннасцю. Былі наладжаны самыя сяброўскія і трывалыя сувязі з беларускімі літаратарамі. У Мінску адбыўся вечар латышскіх і беларускіх пісьменнікаў, на якім Э. Фрос зрабіў даклад пра латышскую пралетарскую літаратуру ў Латвіі і СССР, а Лайцан, Прыедніек і Кікут чыталі свае вершы. Брыгада азнаёмілася з дзейнасцю латышскай секцыі інстытута нацменшасцяў АН БССР, з працай беларускіх выдавецтваў.

Плёнам гэтай паездкі быў спецыяльны нумар часопіса «Целтнэ», прысвечаны Беларусі, дзе былі апублікаваны вершы Я. Купалы, А. Александровіча, М. Чарота, апавяданні Я. Коласа, Ц. Гартнага, П. Галавача, нарыс Л. Лайцана пра швейную фабрыку ў Віцебску. Пазней часопіс надрукаваў «Нататкі пра развіццё беларускай савецкай літаратуры» А. Кучара, артыкул К. Шкілтэра «Дасягненні культурнай рэвалюцыі на Беларусі».

Самы багаты перыяд у гісторыі беларуска-латышскіх сувязей пачынаецца пасля 1940 года, калі Латвія стала савецкай рэспублікай. Шырокай плынню ўліваецца да нас паэзія Я. Купалы, а ў 1941 годзе ён прыязджае ў Рыгу на першы з'езд латышскіх савецкіх пісьменнікаў. «У прыгожую пару цвіцення працякала наша першая сустрэча, — сказаў Янка Купала. — Трэба толькі, каб гэта чыстае савецкае неба ніколі не зацягвалася хмарамі». Але чорныя хмары фашысцкай навалы азмрочылі наша неба на некалькі гадоў. І толькі пасля вайны культурныя кантакты пашыраюцца.

У 1950 годзе на падмостках Акадэмічнага мастацкага тэатра імя Я. Райніса была пастаўлена класічная камедыя Я. Купалы «Паўлінка», праз год — «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы (гэтую п'есу паставіў і Ліепайскі дзяржаўны тэатр). Вельмі папулярнай у Латвіі стала п'еса К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» — яна пакарыла літаральна ўсю рэспубліку.



А. БРЫЕДЭ. Ленін-летуценнік.

Двойчы яе ставіў Дзяржаўны акадэмічны тэатр драмы імя А. Упіта (1954, 1961 гг.), ставілі яшчэ тры тэатры Латвіі. Вядома ў нас творчасць А. Макаёнка — ставіліся «Лявоніха на арбіце» і «Выбачайце, калі ласка!», пастаўлены «Не верце цішыні» І. Шамякіна і «Амністыя» М. Матукоўскага.

А тэатры Мінска, Брэста, Віцебска паставілі п'есу Я. Райніса «Ветрык, вей!» Адзін з беларускіх тэатразнаўцаў адзначаў, што спектакль па п'есе латышскага класіка «ў нечым мае сваяцтва з «Несцеркам».

Развіццё літаратурных сувязей і іх інтэнсіўнасць абумоўліваецца асабістымі кантактамі пісьменнікаў. Умацаванню нашых узаемаадносін нямала садзейнічаў В. Пігулеўскі, які ў Латвіі публікаваў артыкулы пра беларускую літаратуру, а на Беларусі — пра латышскую, перакладаў творы беларускіх аўтараў на латышскую мову, а нашых — на беларускую. У 1956 годзе ў Мінску выходзіць складзены ім зборнік «Латышскія апавяданні». Цяпер яго дзейнасць працягвае Ю. Ванаг, які пераклаў творы Я. Коласа, Я. Брыля, І. Мележа, Я. Скрыгана, беларускія народныя казкі.

Знаёмства з краінай сяброў, кантакты з прадстаўнікамі яе культуры — удзячны матэрыял для творчасці. Беларусь займае віднае месца ў творчасці Э. Саленіека, які трыццаць год пражыў на зямлі Купалы. З дзяцінства палюбіў беларускі народ, яго мову і песні А. Веян — ён напісаў паэму пра паездку Я. Райніса ў Мінск («Пазалочанае лісце на гары высокай»), паэтычныя «Дрысвяцкія замалёўкі», вершы пра сумесную барацьбу латышскага і беларускага народаў, пра першую, пачутую ад бацькі, беларускую песню, якая запаліла ў сэрцы святы агонь сяброўскіх пачуццяў і натхніла на вершаваныя радкі. Сардэчныя, шчырыя вершы прысвяцілі сябрам-суседзям Я. Судрабкалн, М. Кемпе, А. Балодзіс, І. Стулпан.

У сваю чаргу, уражанні ад нашай радзімы ляглі ў аснову твораў многіх беларускіх пісьменнікаў. Пятрусь Броўка напісаў верш «Райнісавы сосны», дзе гаворыць пра іх роднасць з елкай Пушкіна, вішняй Шаўчэнкі, сасной Купалы. Райнісу прысвяцілі таксама вершы М. Танк, С. Шушкевіч, Я. Пушча, А. Вольскі. Вярнуўшыся з Латвіі, Ул. Караткевіч піша свае лірычныя «Казкі янтарнай краіны» — з сардэчнай цеплынёй і вялікай да нас любоўю. Некалькі вершаў прысвяціў Латвіі, краю свайго дзеда, Рыгор Барадулін.

Наш чытач добра ведае кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, П. Броўкі, М. Лынькова, М. Танка, І. Шамякіна, П. Панчанкі, І. Мележа, Я. Брыля, В. Быкава, А. Макаёнка, Я. Маўра, Т. Хадкевіча, Э. Агняцвет, Р. Барадуліна, анталогіі беларускай паэзіі і прозы. А на беларускай мове выдадзены творы Я. Райніса, А. Упіта, В. Лаціса, Я. Судрабкална, Г. Цырyліса, А. Імерманіса, З. Эргле, Ж. Грывы, Э. Вілкса, зборнікі латышскай прозы і паэзіі. На Беларусі прайшла дэкада латышскай літаратуры, а ў Латвіі — беларускай.

Традыцыі дружбы беларускага і латышскага народаў, іх культур і літаратур звернуты ў будучыню. І будучыня гэта — у сям'і савецкіх народаў — будзе прыгожай.



Домскі сабор у Рызе славуты на ўвесь свет...

●

Ўдосталь пра беды ўжо
гаварылі,
Трэба пра радасці
пагаварыць,—
Калі чалавек паддаецца гору,
Мутнее адразу ў яго на душы.
Тады у душы, як у сажалцы
дзікай,
Дно пачынае травой зарастаць.
Хто тады ў спекаць зможа
напіцца
З мутнай, травою зараслай
душы?
Там жа, у цёмных яе глыбінях
Хітра снуюць насякомыя
хіжыя.
Страх—да такой вось душы
прыбліжацца.
Як жа нап'ешся з яе, чалавек?
Радасці трэба прыспець,
як паводцы,
Змыць і муту, і зялёную слізь,
Каб можна было прыпадаць
губамі
Да вытканай небам і сонцам
вады.
Калі ж не прыспее паводка-
збавенне,
Выкапай хоць невялікі ручэй,
Толькі не трэба, не трэба,
не трэба
Змрочнай самоце душу
аддаваць.
Як бы там ні было,
а шторання
Сонца ўзыходзіць, спявае
зямля,
Як бы там ні было, а штоночы
Выблісне з цемры агеньчык
жыцця...
Таму і не веру, што немагчыма
Жолуд такі на зямлі адшукаць,
Што будзе расці і расці так
доўга,
Пакуль не вырасце ў радасць
саму.

Пераклад К. КАМЕЙШЫ.



## Ояр ВАЦЫЕЦІС



●

Бачыў расстрэл я
У сне.
Я прачынаўся
І марудна, як дрэва,
Праз гэты жах прарастаў.

Да якіх толькі вятроў,
Зорак,
Аблокаў
Я не звяртаўся.

Звяртаўся так шчыра,
Як дзеці лічаць да ста,
Каб заснуць.

Мне ж гэта трэба было,
Каб прачнуцца.

І толькі па дарозе на працу,
Шэры вецер сцюдзёны,
Зоркі ліхтароў,
І зыркія аблокі кварталаў
Дапамаглі мне.

Не сон гэта быў.
Недзе ў свеце ноччу гэтай
Чалавека забілі
Так бясконца падобнага
на мяне,
Што ўбачыў я ўсё ўвачавідкі.

●

Ты сказала:
— Пусты гук.

Калі ты антэна,
гук усякі пусты:
пацалунак, выбух, крык—
акустыка толькі,
калі ты антэна.

Я ж пад сэрцам хаваю
мажор і мінор
рыжскіх каштанаў,
элегіі, фугі і джазы
крокаў,
пахавальныя маршы
і гімны маўчання.

Гэта вы,
каштаны
запісалі на мне
крокі
і маўчанне людское.

Здаецца, ў мяне
павінен быць лішак
магнітафоннай ленты.
Мне ж яе заўжды не хапае.

На светафор,
як на зялёнае вока прыёмніка,
я сам іду, каб гукам зрабіцца.

Пераклад А. ГРАЧАНІКАВА.

А. БРОК

# АГЛЯДАЮЧЫ ЗАСЕКІ РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Каб даць уяўленне аб сучаснай латышскай літаратуры апошніх гадоў і аб тэндэнцыях яе развіцця, варта было б перш за ўсё назваць усе тыя творы, якія выйшлі за гэты час. Але гэта немагчыма, таму што адзін пералік заняў бы адведзеныя для артыкула старонкі. Таму ўпамянём толькі тых аўтараў і коратка разгледзім тыя кнігі, якія намецілі новыя рысы ў творчым партрэце сучаснай прозы і паэзіі.

Латышская проза ўжо з часоў братоў Каудзіт і Блаўмана заўсёды развівалася ў глыбока рэалістычным рэчышчы. Гэта строгая традыцыя знайшла ўсебаковае развіццё ў эпахальных раманах Андрэя Упіта, у хлёсткіх, жыццёва-праўдзівых апавяданнях і навелах Эрнеста Бірзніека-Упіта, у эпічных творах Віліса Лаціса; народнае жыццё, нацыянальны характар прадстаюць у іх ва ўсёй шматграннасці сваіх асаблівасцей і маляўнічасці мовы. Сучасная латышская проза працягвае развівацца ў гэтым жа напрамку, усё шырэй разгаліноўваючыся ў сэнсе жанравай і стылявой разнастайнасці. Надзвычай пашырылася тэматычнае кола прозы. Спынімся перш за ўсё на яе галоўным жанры — рамане.

Сучасны раман неаднаразова згараўся на гарачым кастры палемікі, але зноў і зноў, як Фенікс, адраджаўся з попелу і да гэтага часу з гонарам утрымлівае свае літаратурныя пазіцыі, у сваёй найглыбейшай сутнасці застаючыся верным рэалістычным традыцыям.

З поўнай падставай высоўваючы высокія патрабаванні да рамана як аднаго з вядучых жанраў літаратуры (не будзем забываць: пісаць раманы—занятак філасофскі) і ацэньваючы творы па тым, наколькі праўдзіва і глыбока яны раскрываюць сучасную рэчаіснасць, нельга не звярнуць увагі на тое, як пад уздзеяннем самога жыцця змяніўся жанр рамана. Падобна на чуллівую пульсуючую істоту, ён жыва адгукаецца на патрабаванні сваёй эпохі і таму ўсё яшчэ захоўвае дамінуючае становішча ў літаратурным працэсе і прыцягвае самую вялікую колькасць чытачоў. Дастаткова параўнаць хоць бы раманы Андрэя Упіта «Зямля зялёная» і «Прасвет у воблаках» з навейшымі творамі Зігмунда Скуіня—«Серабрыстыя воблакі», «Галізна», або, скажам, з раманамі Альберта Бела «Следчы» і «Клетка» (ад раманаў Упіта іх аддзяляе ў часе прыкладна два дзесяткі гадоў), каб адчуць велізарную розніцу (і не толькі ў сэнсе колькасці старонак!), якая сведчыць аб каласальным дыяпазоне магчымасцей рамана як жанру, яго жывой эластычнасці, адмаўленні ўсялякай кананізацыі. Агульным жа для гэтых розных раманаў (было б няправільна эпічна шырокаму раману супрацьпаставіць лаканічны асацыятыўна-псіхалагічны твор, як адзіна адпавядаючы патрабаванням сучаснасці) з'яўляецца тое, што яны няспынна развіваюцца. Працэс эвалюцыі рамана, што ўжо неаднаразова падкрэслівалася ў артыкулах, яшчэ не закончаны, ён толькі ўвайшоў у новую фазу развіцця.

Надзвычайная пластычнасць рамана, трывалая «зваротная сувязь» збліжае яго з жыццём, дае магчымасць ахапіць змены, якія адбываюцца, бо толькі той, хто сам расце, фарміруецца, здольны зразумець новае. Сучасны латышскі раман імкнецца ісці ў нагу з жыццём, растучая цікавасць чытачоў да новых твораў прозы ў гэтым сэнсе з'яўляецца сур'ёзным аргументам. У жанры рамана мы знаходзім творы, якія прысвячаюцца адлюстраванню рэвалюцыйнай барацьбы народа і яе выдатным правадырам, напрыклад, раманы біяграфічнага характару «Кожны нараджаецца са сваім шчасцем» і «Астравок у бурлівым акіяне» Яна Ніедрэ, дзе ў цэнтры—вобраз выдатнага марксіста, рэвалюцыянера і віднага дзяржаўнага дзеяча Пятра Стучкі. Рэльефны паказ крывавай барацьбы і складанага рэвалюцыйнага шляху чырвоных латышскіх стралкоў даў Альберт Янсан у сваім рамане «Адыходзячы на вайну», які трэба разглядаць як першую кнігу шырокага цыклу твораў. Пякучыя перажыванні дзён другой сусветнай вайны востра адчуваюцца ў рамане Велты Спарэ «Цюрлеанскія дзяўчаткі», напісаным у своеасаблівай лірычнай інтымнай апавядальнай манеры.

Выдатным дасягненнем латышскай прозы апошніх гадоў з'яўляецца раман Эгана Ліва «Чортаў Камель», у якім вырашаецца праблема грамадзянскай адказнасці ў дні драматычных паваротаў гісторыі, калі чалавеку ў поўнай меры даводзіцца даць адказ аб сэнсе свайго існавання. Адчайная барацьба галоўнага героя Каспара за жыццё блізнят, якое так цяжка захаваць у самыя гарачыя дні вайны, выклікае глыбокае спачуванне, прымушае захапляцца яго сілай, жыццяздольнасцю, высакароднасцю і самаадданасцю. Раман узбуджае ў чытача пратэст супраць бесчалавечнасці і бессэнсовасці развязанай фашыстамі вайны. Велізарнае ўсведамленне абавязку Каспарам, развітае пачуццё адказнасці сведчыць аб жывучасці гэтага моцнага характару, які выйшаў з народных глыбіняў, яго невычарпальным гуманізме.

Да паказу драматычных калізій ваенных і акупацыйных гадоў звярнуліся многія латышскія савецкія пісьменнікі. І менавіта творы гэтай тэматыкі з'яўляюцца лепшымі дасягненнямі апошніх гадоў. Тут перш за ўсё варта нагадаць навелу Эвалда Вілкса «У паўночны час» і аповесць Рэгіны Эзеры «Балада дзятлавага бору». Абодва творы нядаўна ўзнагароджаны літаратурнай прэміяй Эдуарда Вейдэнбаума. І—апавяданні Міервалда Бірзе, героі якіх прайшлі скрозь жахі фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў, аповесці Уладзіміра Кайяка «Сатана» і «Без вестак...», дзе псіхалагічна праўдзіва і глыбока раскрываецца маральная дэградацыя тыпаў, якія ў час вайны, зрабіўшыся прыслужнікамі фашыстаў, заплямілі свае рукі крывёю невінаватых людзей і тым самым адрэзалі сабе ўсе шляхі да вяртання да сваіх блізкіх, да свайго народа.

Аднак, якое б ні было вялікае значэнне паказу ў літаратуры народжаных вайной драматычных лёсаў, яно ўсё ж не займае ў нашай прозе галоўнага месца. У большасці твораў вырашаюцца сучасныя праблемы, канфлікты, якія нараджаюць чалавечыя ўзаемаадносіны ў паўсядзённай рабоце, у побыце, у сям'і. Асаблівая ўвага ўдзяляецца ўсебаковаму асвятленню складаных адносін індывіда і грамадства, што дапамагае раскрыць умовы фарміравання асобы. Адзін з мастацкіх твораў, у якім ярка праявіліся як моцныя, так і слабыя бакі сучаснай латышскай прозы (цікавыя знаходкі ў галіне сродкаў мастацкага выяўлення, але недастаткова вострае і глыбокае адлюстраванне сацыяльных праблем) —гэта раман Зігмунда Скуіня «Галізна». У ім праводзіцца думка, што ў жыцці, у саміх людзях іх узаемаадносінах павінна панаваць праўда, якой бы горкай яна часам ні была; хлусня садзейнічае адчужэнню і робіць існаванне трагічным. Цэнтральны герой рамана Каспар Крумінь прыходзіць да аголенай праўды праз складаныя, цяжкія перажыванні. Твор напісаны ў характэрнай для З. Скуіня сюжэтна раскаванай, займальнай манеры з дынамічнымі, усыпанымі сентэнцыямі і парадоксамі дыялогамі. Аднак раман прагучаў бы намнога мацней, калі б у паказе ўзаемаадносін персанажаў даваўся больш глыбокі аналіз сацыяльных умоў. У гэтым і праявіліся слабыя бакі рамана З. Скуіня.

Адна з істотных рысаў сучаснай латышскай прозы—гэта цяга да поўнага лаканізму, да максімальнай насычанасці апавядання. Разам з тым, значная частка прозы стала менш аб'ёмнай, і гэта, думаецца, больш адпавядае патрабаванням сучаснага чытача, бо ў нашы дні чалавечая свядомасць і так ужо гранічна перагружана інтэнсіўным патокам інфармацыі. Цікавымі пошукамі ў гэтым сэнсе можна прызнаць аповесць «Балада дзятлавага бору» і раман-мазаіку «Бязмесячная ноч» Рэгіны Эзеры, раманы Альберта Бела «Следчы» і



Уся Латвія прымае ўдзел ў святах песні...

# ЛЮБЛЮ ТВАЕ ВОЧЫ



## Імант ЗІЕДОНІС

Люблю я вочы твае,
Калі ў іх дзень устае
І дзяцел дзяўбе бясконца,
Як шышку яловую, сонца.
Іх позірк душу дастае
Праз сінявaтую дымку.
Люблю я вочы твае,
Дзе з цемрай святло
ў паядынку.

Люблю я вочы твае,
Калі яны, нібы змеі,
Холадна джаляць мяне...
Я іх не любіць не ўмею.
Люблю іх, калі яны
Мяне агнём кранаюць—
Жыццё маё навылёт,
Як лазеры, працінаюць.
Тады я, душачы крык,
Што рвецца з грудзей
балючых,
Пакутую, як шашлык
На шампурах пякучых.
Люблю я вочы твае,
Калі ў іх дзень устае
І дзяцел дзяўбе бясконца,
Як шышку яловую, сонца.
Сыплюцца ў гэты міг
Золатам зерні-прамені
І я падстаўляю да іх
Няўтольных жаданняў жмені.

Пераклад П. МАКАЛЯ.

Быў дзень майго нараджэння, і я, атрымаўшы зарплату, пайшоў дамоў, добра ведаючы, што ў Зане цяпер ні капейкі. Пасля вяселля такое бывала даволі часта; мы зараблялі не надта каб, грошы цяклі, як вада з рэшата, разляталіся і лопаліся, бы мыльныя пузыры, але бяда гэта нас пакуль што мала абыходзіла. Як я ўжо сказаў, быў дзень майго нараджэння, а ў такія дні людзі робяцца сентыментальнымі. Я ляцеў як на злом галавы, страмотыч, бегучы ўспомніў нават апавяданне О'Генры пра аднаго маладога чалавека, які прадаў свой гадзіннік, каб купіць жонцы чарапахавы грабянец, і пра маладую жанчыну, якая, каб падарыць мужу бралок да гадзінніка, прадала свае валасы. Прыкінуўшы, што Зане яшчэ не скора вернецца, я рашыў сам накрыць стол для вячэры і накупіў у магазіне на рагу вуліц цэлы партфель розных прысмакаў і лагодак.

Але Зане ўжо вярнулася і чакала мяне ў прыхожай, міла і ласкава ўсміхаючыся. Чароўная ўсмешка. І хоць гэтак жа, як кофтачка Зане не можа схаваць ад мяне таго, што пад ёю, так за ўсмешкай я разгледзеў нейкае хваляванне і, што ўжо зусім не ў натуры Зане, нясмеласць. Не, гатовы

Зігмунд СКУІНЬ




АПАВЯДАННЕ

пабажыцца, выгляд яе быў крышачку як бы вінаваты.

— Мілы, ты толькі не сярдуй,— яна ціха, як галубіца забуркатала мне на вуха,— я, ведаеш, доўга думала, перабірала, што б табе такое, аж...

— Нічога, нічога, абыдзецца,— махнуў я рукою.— Нічога не трэба. Не тлумі сабе галавы абы чым!

— ...нарэшце надумала падарыць табе каня.

— Каня? Якога каня?

— Старога Цыгана.

Я засмяяўся — жарт удаўся.

— Не, сур'ёзна,— сказала яна.— Крым смеху. Ён ужо тут.

— Дзе тут?

— У нашым пакоі.

Мусіць у тую хвіліну я выглядаў дурань-дурнем: мы жылі на трэцім паверсе камунальнай кватэры. Зане, ужо не трацячы час на словы, узяла мяне за руку і павалакла ў пакой.

А там і праўда стаяў конь. Гняды, з даўжэзнай сівой грывай, пушыстым хвастом і вялікімі журботна-тужлівымі вачыма пяшчотна-блакітнага адцення, якое бывае толькі ў баравых званочкаў, расцвілых раннім досвіткам. Карціна на сцяне была зусім свежая, нават як след яшчэ не падсохла; я пагладзіў каню морду, і рука адразу зрабілася ліпкай ад фарбы.

— І ты ўсё гэта сама?

— Калі не падабаецца, можна саскабліць...

— Што ты такое гаворыш!

Тут дыялог наш перапыніўся. Купованая закусь доўга ляжала ў партфелі на падлозе. У пакоі было добра напалена. Са століі ярка свяціла лямпачка.

Зане ўзяла мяне за руку, як і тады, калі вяла ў пакой, і сказала:

— Не забывай, цяпер нас ужо трое ў пакоі.

— Ён засне, бачыш — ужо заснуў. Паглядзі, як спакойна. Коні, яны спяць стоячы.

— З адкрытымі вачыма?

— А што б то ім!

На ўсякі выпадак святло рашылі пагасіць.

... Мы з Зане—гараджане. Першы ўспамін з дзяцінства—шум, гарадскі шум, я сплю на ложку, вецер калыша, нібы белыя сцягі, фіранкі на вокнах, а за адчыненымі вокнамі, там, унізе, ляскоча, грукоча, гудзе, гамоніць і звініць вуліца. А вось ужо я «вялікі», і мама раніцай вязе мяне ў дзіцячы сад: трамваі набатаваны па завязкі, з усіх бакоў штурхаюць і пхаюць, мяне ўціскаюць, убіваюць усярэдзіну, нібы цвік у сцяну, я хачу пралезці да акна, але дзе там — перад вачыма штаны, спадніцы, ногі...

Да дома, у якім я гадаваўся, прысуседзіліся яшчэ два дамы з высокімі сляпымі сценамі і запушчанымі дварамі — уся гэта змрочная клетка стварала нейкае падабенства старажытнай крэпасці. Так сказаць, магутную фартэцыю, цэлае ўдзельнае царства. Каля сметнікаў вечна аціраліся, нышкарылі каты, на адным балконе трэцяга паверха, высалапіўшы язык, заўсёды сядзеў дог Нерон; калі на зямлю сыпалі крошкі хлеба, то проста пад ногі, шумна лапочучы крыллем, зляталі з дахаў галубы; а яшчэ — змрочныя, халодныя калодзежы-пячоры, у якіх таямніча булькатала і шумела канальная вада; чорныя вугальныя бункеры і кацельня, гарачая, як Люцыпарава кухня.

На двары, каля камяніцы, рос невялікі каштан. Хлапчукі, лазячы па ім, апоўзалі ўсю кару, на абскубленых галінах жанчыны сушылі анучы; але як толькі займалася вясна, каштан ажываў, распускаўся, выганяў вялікія, рудаватыя, ліпкія, нібы мядовай паліўкай памазаныя пупахі; свечкі-кветкі гарэлі на галінах да сярэдзіны лета. Прагрэтыя маланкамі дажджы пакідалі на асфальце двара вялізныя лужыны, на іх цярусіўся каштанавы цвет—тут, на гэтых Саргасах мы адкрывалі свае навігацыі, пускалі лодачкі і караблікі. А ўвосень на чорны ток двара падалі іглаватыя каштаны, яны лопаліся і вылушчваліся з калючай шкарлупіны, весела зіркаючы на белы свет вільготнымі карымі вачанятамі.

Недзе на купалле я і Зане ўзялі водпуск: прычына важкая і неаспрэчная—вяселле ж. Паплаваць на гумовай лодцы па Салацы было нашай даўнішняй марай. Ноччу мы спалі на капіцы сена, а днём аддаваліся ўладзе ракі і заплывалі далёка-далёка ад усіх турбот і клопатаў і гайдаліся на хвалях з такой жа снаравістасцю і лёгкасцю, як і птушкі, што, нават не варухнуўшы перыйкам крыла, маглі гадзінамі лунаць у паветры над намі, або як белыя пушынкі адуванчыкаў, якія ад лёгкага павеву падымаліся ўгару і апускаліся на дзяцінна-гладкую паверхню ракі.

Днём мы бачылі толькі нейкага самотніка-рыбалова, які, умасціўшыся на пахіленым камлі старой вярбы, сядзеў з вудай; пастуха, што прыгнаў паіць каровы; маладзіцу, якая паласкала бялізну,— але часцей за ўсё перад вачыма плылі парослыя вербалозам берагі, мокрыя гранітныя спадзіны, урвішчы і ўсё гэта пад аднастайна роўны цуркат ракі, усплёскі рыбы ў завадзях — зачэрпнеш прыгаршчы вады, і яна звонкім струменем ліецца з рук, а праз хвіліну супакоеныя хвалі ўжо зноў лагодзяць барты лодкі. І цішыня, цішыня, цішыня. Юшка, печаная ў прыску бульба, вячэрняя зара, начныя заранкі, світанне, далёкае водгулле, Зане на сене, нібы на рачной хвалі. І зноў цішыня, і зноў спакой і лагода.

На пачатку другога тыдня ўспорыўся, заперцаваў дождж. Буйныя кроплі сцябалі Салацу, дрыготка рабацінілі раку. Душа не гарнулася да нічога, сырая вопратка ліпла, па целе бегалі мурашкі. Мы рашылі пашукаць начлегу пад дахам. Нам пашанцавала — непадалёк ад берагу на ўзлессі мы напароліся на двор, мусіць, як на тутэйшыя сельскія ўмовы, самы звычайны двор, але то на тутэйшыя — мы ж бо жылі ў зусім іншым свеце. На гэтым аседлішчы мы і правялі рэшту нашага мядовага месяца.

Спалі на вышках, адгароджаных ад прасторы нябеснай тонкімі звонкімі дошкамі, на сене, тлустым, наедным, цёплым, у густым, настоеным прыроднымі пахамі хлеве, пад няспыннае лапатанне дажду, тужлівыя ўздыханні каровы, сакарэнне курэй і досвіткавы благавест пеўня. Мыліся пад старой яблыняй у садзе. Непадалёк, добра ўпісаная ў зарасці любістку, кмену і крапівы, пахіла, як Пізанская вежа, стаяла буда з выразаным на дзвярах сэрцайкам. Мы хадзілі босыя. Пілі толькі сырадой.

Старой гаспадыні было восемдзесят восем, і яна невядома чаму нагадвала мне бачаны ў кватэры аднаго славутага акцёра пабурэлы, высахлы вянок. Усё, што магло быць зроблена гэтай старой жанчынай, было ўжо зроблена. А што засталося, таго ужо, мусіць, сам гасподзь не адужае. Цела ў ёй як і не было зусім, так высахла: але старая ўсё-такі ўсюды паспявала, усё патрапляла, упраўлялася, увіхалася, рабіла бадзёранька і як бы ўвасабляла ў сабе нейкі фальклорны дух.

Дачка гаспадыніна, гадоў якіх на дваццаць маладзейшая, таксама калгасная пенсіянерка. Яшчэ замаладзь, калісьці, зламала нагу, і цяпер крыху накульгвала, хадзіла, ні на каго не зважаючы, і ўсё пасвіствала, і ўсё пасвіствала, а, угледзеўшы каторае з нас, голасна гаварыла:

— Што мне тая брыгада, я на казённым хлебе. Адно хіба калі ўжо што там якое ў іх, калі ў галаву каму стрэле, то чаму ж бо, падыду, бывае, пасоблю.

А брыгаднікам, відаць, часта «ў галаву страляла», бо такі пасабляла старая ці не кожны дзень.

Зане любіла пахадзіць па лесе. З раніцы, калі пад залацістым сонцам падсыхала аброшанае голле, любіла падоўгу слухаць лясныя галасы, удыхаць смалісты пах, аж пакуль сіняватыя цені не абвяшчалі надвячорка,— у горадзе гэтым часам цямнеюць, чарнеюць дрэвы, у кафедральным саборы пачынаюць пераліваца, іграць, як сонца на сёмуху, апошнія промні дня ў каляровых шыбачках вітражоў. Часам мы палохаліся — то выскачыць з гушчарніка казуля, то варона-дурніца над галавою прачысціць горла, а аднаго разу міма нас, зусім блізка, асаніста і спакойна-велічна прайшлі ласі.

Ад узлесся пачынаўся вялікі луг з канюшынай, у канцы яго была загарадзь, конскі загон. Першы раз пасля прыезду я выйшаў раніцай і рушыў па мокрым лузе, босы, закасаўшы нагавіцы,—ногі пякло, абляпіла дробнымі траўкамі, пылком кветак. Коні стаялі нерухома, паклаўшы адзін аднаму галовы на шыі. А адзін, цёмнагняды, з доўгай сівой грывай прыветліва паглядзеў на нас, падышоў бліжэй, ціха заржаў, расказваючы нешта сваё, конскае.

За коньмі даглядаў Антон, невысокі, прысадзісты халасцячок — гаворачы, ён увесь час тыцкаў пальцам у далонь, вадзіў па ёй, нібы запісваў у пратакол усё, што казаў.

— Латвійскі скакун — гэта жывыя, мой пане, грошы. Сусветны клас, каб вы ведалі, першая марка, экспартны тавар. Шмоткамі цяпер загранічнае панства не возьмеш. Ім падавай коней. У Англіі за добрага жарэбчыка даюць па пяць, мой пане, тысяч фунтаў. Я ўжо казаў старшыні — трэба нешта рабіць, кажу. Але таму што ўбіў, то ўехаў, стаіць, як пень, патыліцу чухае, і гэта мне гаспадар.

Антон прынёс сёдлы, але, даведаўшыся, што раней мы ніколі на конях не гарцавалі, у кавалерыі не служылі, задумаўся, пасля з жалем сказаў:

— Ну, тады вам хіба што толькі на Цыгане. Калі яшчэ такое сядло, то на ім, як на бочцы, хоць задам, мой пане, садзіся, хоць перадам.

Цыгана ў работу бралі рэдка, не тое што гаспадыніну дачку; ён таксама быў на казённым хлебе, дагульваў дваццаць другое лета, але ж конь не чалавек, з яго многа не возьмеш, яго і пашкадаваць трэба.

— Старому кавалеру даўно пара бай-бай,— сказаў Антон, але ў голасе чулася, што хай сабе Цыган яшчэ папасвіцца, паесць калгаснага аўсу ў маладой кампаніі.

Цыган быў хітры і наравісты. Каб не гэта — то зусім скаціна што трэба. Даўшы перш-наперш трушка, ён неўзабаве спакваля пераходзіў на спакойны подбег, хітравата і пільна касавурачы на седака — ужо ці не даволі табе тых алюраў і галопаў?—ах, усё-такі не!—бяда мне з табою!—ну, добра, можна і прабегчыся, на́ табе хутчэй, кароста ты неадчэпная. Гэта быў конь спакойны, багабаязны, я б сказаў, з рахманасцю ў вачах, якімі ён глядзеў на свет тутэйшы з-пад цяжкіх павек, з вельмі спраўным яшчэ хвастом, якім ён, гультаіска стары, лянiва, як бы нехаця памахваў, адганяючы мух і ўсякую летнюю заедзь, з мяккімі, далікатнымі губамі, якімі ён, перш чым ускубнуць, пацягваўся наперад і як бы цалаваў тую ўпадабаную бадыліну-травіну. На Цыгана нават сабакі не брахалі. Ён любіў класці чалавеку на плячо галаву і дыхаць у твар.

Часам, калі мы развіталіся з ім, было ўжо цёмна, у небе ззялі зоркі, і ўвесь луг з конскім загонам ахутваў густы вільготны туман. Цыган стаяў каля загарадзі і, паклаўшы галаву на жардзіну, журботна глядзеў нам услед, заснежаны месячным серабром, ахутаны маўчаннем і цішынёй наваколля. І цішыня гэтая пахла коньмі, сухой канюшынай, падаспелым ядроным жытам і начнымі фіялачкамі...

Пад нашым акном стаіць слуп з ліхтаром, яркая лямпачка цалюткую ноч ліе ў пакой блакітнавата-млявае святло, да яго мы прывыклі, амаль не заўважаем, як бы там яно і трэба. Нам сніцца Цыган ля жардзіны ў загоне, мне нават здаецца, нібы я чую сверасценне драчоў на жытнім палетку, але самаго поля не бачу з-за шафы.

Прайшло яшчэ некалькі месяцаў. Пракруцілася, як на каруселі. Сесія ў інстытуце, на заводзе трэба наладжваць выпуск новай радыёапаратуры. Як на добры лад, можна было б ужо зноў у адпачынак адпрошвацца, але ці ж да адпачынку, калі вакол цябе ўсе круцяцца, мітусяцца, калі прэміі на валаску. У такія дні я заўсёды дзіву даюся з начальніка нашага цэха — старога Буркевіча. «Жыццё — што тая п'еса, у якой усё пераблыталася, перамяшалася, стаўклося, а ў фінале заўсёды ўсё становіцца на сваё месца. Галоўнае — самога сябе не баяцца»,— любіў ён гаварыць. Буркевічу, вядома, зноў адкрылася ісціна. Залікі я паздаваў, апаратуру выпусціў, і нарэшце мог перавесці дух. Была субота ці то нядзеля, не помню ўжо, ва ўсякім разе — выхадны дзень.

— Мілая жоначка, ведаеш што,— сказаў я Зане,— ці не пратрэсціся нам сёння, ці не пахадзіць па горадзе. Проста так, для прыемнасці. Даўно ж не гулялі.

— Добра.— згадзілася Зане.

Горад — мая стыхія, слабасць мая. Я б мог сказаць—часцінка мяне самога, я — плоць ад плоці горада. Гучыць гэта крыху напышліва і манерна, але што праўда, то праўда, я не магу прыгадаць ні адной больш-менш важнай падзеі з майго жыцця, каб гэта было без Рыгі. Першы школьны дзень — іду ўздоўж прылаўкаў, на якіх прадаюць кветкі, перад вачыма, як у калейдаскопе, стракацяць гладыёлусы, даліі, астры, вяскоўцы з кузаваў прадаюць яблыкі, кавуны—ах, гэтая бліскучая зялёная кажура, гэта гладыёлусна-пунцовая мякаць! — пахаванне бацькі, асеннія сонечныя блікі на бруку вуліцы Міру, жоўтае і чырвонае лісце на трамвайных пуцях, провады ў армію — ветраны, сцюдзёны перон, белы мокры снег, бліскуча чорны абмыты асфальт і сляпуча блакітнае прадонне неба над пляскатым дахам вакзала; знаёмства і спатканне з маёй Зане. Старая Рыга, пятачок святла пад старым ліхтаром у цемры асенняга вечара каля Джыльды. Усё гэта Рыга. Хоць да бясконцасці магу ўспамінаць.

Кожны раён Рыгі мае сваё аблічча, свой рытм, свой характар. Новы ў горадзе чалавек нават падумаць не адважыцца, што амаль пад бокам у галасістага, магазінна-стракатага, імпэтнага цэнтра прыматкабожыўся самы ціхі, самы спакойны раёнчык з як бы застылымі, здранцвелымі саборам святога Якава, каталіцкай курыяй, «Трыма братамі» і былым ліцэем Карла XI. Вузюсенькія, лукаткаватыя вулічкі можна абхадзіць уздоўж і ўпоперак, не сустрэўшы ні адной жывой душы. Дзіўныя і таямнічыя фасады, нязвыклыя нашаму воку групы дамоў старой архітэктуры. Каля Віестурскага саду днём і ноччу пахне толькі што спечаным хлебам, чырванадзвінцы прывыклі гаварыць на поўны голас, таму што працуюць у шумных цэхах, а ў суботу і ў нядзелю катаюцца на траскатлівых маторках.

А рыжскі брук? Колькі ў ім тонаў і адценняў! Толькі няўважліваму чалавеку колатыя, абчасаныя камні здаюцца аднастайна шэрымі. На самой справе яны і сінявата-сталёвыя, і рудаватыя, і жаўтавата-пярэстыя, і зусім нават чорныя. Горад поўны дзівосаў і неспадзяванак, але іх трэба ўмець знайсці, убачыць; сотні разоў, бывае, раўнадушна, абыякава праходзіш каля дома, і раптам вочы твае як бы нанава празраваюць, і ты

# КАМЕННАЯ ПЕСНЯ

СКУЛЬПТУРА — адна з маладзейшых сясцёр у латышскім выяўленчым мастацтве. Пачатак яе самастойнага жыцця даводзіцца на канец XIX стагоддзя. Таму асабліва прыемна, што ў апошні час латышская скульптура атрымала прызнанне, якое пераступіла рубяжы рэспублікі.

За семнаццаць кіламетраў ад Рыгі пачынае свой шлях дарога пакут латышскага народа. Саласпілс. У час Айчыннай вайны нямецкія фашысты забілі тут больш як 50 тысяч чалавек. Сярод іх— жанчыны, старыя, дзеці.

У 1967 годзе на месцы былога Саласпілскага канцэнтрацыйнага лагера быў узведзены манументальны помнік-ансамбль.

Дарога на тэрыторыю комплекса праходзіць цераз «лінію жыцця і смерці», над якой на жалезабетоннай канструкцыі — надпіс: «За гэтымі варотамі плача зямля». Перад вачыма гледача поле верасу, на якім сімвалічныя фігуры — Нязломлены, Прыніжаная, Пратэст, Рот-фронт, Салідарнасць, Мір. Скульптуры як быццам вырастаюць з зямлі, прасякнутай крывёю, і сваёй манументальнасцю падкрэсліваюць будзённасць пейзажа. Гледача, які ідзе па высланай бетоннымі плітамі дарозе, суправаджаюць гукі метранома.

Комплекс манументаў у Саласпілсе гранічна эмацыянальна расказвае аб трагедыі, якая тут адбылася, аб зверствах немцаў на акупіраваных землях, аб барацьбе латышскага народа супраць фашысцкіх захопнікаў.

За высокае мастацкае і архітэктурнае рашэнне ансамбля аўтарскаму калектыву — скульптарам Льву Букоўскаму, Алегу Скарайнісу, Янісу Зарыню і архітэктарам Гунару Асарысу, Альгерту Астэнбергу, Івару Страутманісу і Алегу Закаменнаму ў 1970 годзе была прысуджана Ленінская прэмія.

Нядаўна аднаму са старэйшых латышскіх скульптараў, народнаму мастаку СССР, правадзейнаму члену Акадэміі мастацтваў Тэадору Залькалну за заслугі ў развіцці латышскага выяўленчага мастацтва і ў сувязі з дзевяностапяцігоддзем было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Праца — вось аснова жыцця нашага любімага мастака. Пасля заканчэння мастацкай школы Штыгліца, малады Залькалн атрымлівае стыпендыю для далейшай адукацыі за мяжой. Ён едзе ў Парыж. Вучыцца ў студыі Агюста Радэна. Потым — гады педагагічнай дзейнасці ў Екацярынбургу і паездка для ўдасканалення майстэрства ў Італію.

Там мастак прыходзіць да вываду, што ў мастацтве трэба шукаць тыя формы, якія блізкія народу і эпосе. У гады 1-й сусветнай вайны, глыбока перажываючы пакуты свайго народа, Залькалн стварае некалькі вобразаў латышскай жанчыны-маці. Гэтымі невялікімі, але манументальнымі па сваёй сутнасці фігурамі скульптару ўдалося раскрыць характар змучанага вайной народа — яго прастату, гора і ўнутраную сілу. Па сённяшні дзень створаныя мастаком вобразы Маці з'яўляюцца шэдэўрамі латышскай скульптуры.

Асаблівае месца ў творчасці Т. Залькална займае 1918 год, калі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі быў падпісаны У. І. Леніным дэкрэт аб манументальнай прапагандзе. З натхненнем стварае скульптар партрэты Чарнышэўскага, Мусаргскага, Скрабіна, лейтэнанта Шміта. Яго скульптура робіцца дынамічнай, канструктыўнай, ён не баіцца шматгранных форм, імкнучыся да максімальнага абагульнення вобраза.

Пасля вяртання ў Латвію мастак з поспехам працуе над мемарыяльнай скульптурай.

У 1940 годзе Тэадор Залькалн упэўнена становіцца на шлях сацыялістычнага рэалізму ў мастацтве.

Пасля вызвалення Рыгі ад нямецкіх акупантаў Залькалн — намеснік старшыні праўлення Саюза мастакоў Латвіі, кіраўнік кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў рэспублікі, правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета ЛССР. У гэты час ён стварае многа партрэтаў грамадскіх дзеячоў, вучоных, рабочых, калгаснікаў новай сацыялістычнай Латвіі.

Тэадор Залькалн, чулы, таленавіты педагог, выхаваў некалькі пакаленняў нашых скульптараў.

Адной з самых таленавітых паслядоўніц Тэадора Залькална па праву лічыцца Аляксандра Брыедэ. На выстаўцы, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, яна парадазала гледачоў работай «Ленін —летуценнік». Гэты твор здзіўляе прастатой кампазіцыі, выразнасцю псіхалагічнага развіцця вобраза, манументальнасцю. Гэта работа не толькі новае дасягненне А. Брыедэ ў галіне манументальнага партрэта, але і самы пераканаўчы вобраз правадыра рэвалюцыі ў латышскім савецкім выяўленчым мастацтве. Сёлета члену-карэспандэнту Акадэміі мастацтваў СССР Аляксандры Брыедэ прысвоена ганаровае званне народнага мастака СССР. Творчасць Аляксандры Брыедэ мае вялікае значэнне ў развіцці партрэта ў латышскім савецкім мастацтве. У апошні час мастак стварыла некалькі цудоўных твораў аб дзецях. Багацце свету дзяцей А. Брыедэ раскрывае, паказваючы іх у працы і ў час гульняў. Скульптар ніколі не адступае ад непасрэднага назірання над прыродай, не дэфармуе фігуры і не пагарджае законамі прапорцый. І ўсё ж абагульненне ў яе работах нярэдка такое значнае, што надае вобразу сімвалічнае гучанне. Гэта асабліва прыкметна ў створанай ёю ў 1960 годзе кампазіцыі «Мір». У гэтай рабоце Аляксандра Брыедэ гаворыць пра мір, шчасце, сонца.

**Інара НЯФЁДАВА.**

Рыга.



Т. ЗАЛЬКАЛН. Маці.



Народны мастак СССР, Герой Сацыялістычнай Працы Тэадор Залькалн.

Петэрыс ЮРЦІНЬШ



## МОГІЛЬНІК СЭРЦАЎ

Ах, як соладка часам залётамі
дражніць—
і гітара пяе, і віна цераз край.
Пасля рому агністага—фінскія
лазні.
Гэта, мабыць, і ёсць самы
шэры адчай?
Так, напэўна, крычыць крык
журбы ў выпівохі
па тых белых лятунках,
у шэрай імжы,
калі цягнешся прагна да чыстай
чаромхі,
а прачнешся—на голым
камені ляжыш.
Ты ляжыш, як труха,
ты ўстаеш, як разбіты,
ты ідзеш, бы ў тумане, хоць
сонечны дзень.
І здаецца: на свеце ты ўсімі
забыты—
і стаіш у баку ад сябе
і людзей.
Зноў—у сіні куродым,
забыцца каб трохі,
хоць прытворна, а боль каб
на сэрцы ачах.
Белы прывід—то куст
белапеннай чаромхі?—
Блішча суму святло у вясёлых
вачах.
Спатыкаюць цябе карані
неўпрыкметку,
выручаюць пахілыя часам
платы.
Але варта прылашчыць да губ
сваіх кветку,
і твой голас ахрыплы пяшчотны
тады.

Кручы—могільнік страсных,
узрушаных сэрцаў.
Ёсць пясок для такіх, ёсць
і цёплы угрэў.
Гэта значыць, кагосьці ў жыцці
ты не стрэціў,
хтосьці вельмі патрэбны цябе
не сустрэў.

## КАЛІ ЎЖО ВЕСЯЛІЦЦА...

Колькі ў нас радасцей светлых,
харошых?!
Сваё ж трачу я, бы
ад спадчыны грошы.
Можа ў зямлю закапаць іх
цішком,
бедным прыкінуцца, жыць
жабраком?
Дазволь жа патраціць іх,
звесці дазвання
так, як надумаў,
без шкадавання:
дзесяць—вятрыску, што
ў ветразі б'ецца,
дзесяць—кастру, што гарыць
ды злуецца,
дзесяць—рацэ, каб плыты
хутчэй гнала,
дзесяць—ваўчыне, каб
не кусала.
Буры зялёнай—аж сотню
не шкода,
хай аніколі не знае ўвярoды!..
Не клічце ў бяседу мяне,
папрашу,
дзе лезуць пішчом
з дабрынёй у душу,
а ў сэрцах—няплаўкі чыгун
спластаваны.
Калі весяліцца, то—
дзе наша не прападала!

Пераклаў Ул. ПАЎЛАЎ.

КІНО

# ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН У ЛЕСЕ

У дзяцінстве мы ўсе стыхійна адушаўляем прыроду, лічым, што ўсе жывыя істоты думаюць і адчуваюць гэтак жа, як і мы.

Ды што жывыя істоты! Усё навокал — жывое, усё — адчувае. Нават камень пры дарозе. Што ж тады гаварыць пра дрэвы? Хіба яны не жывыя? Хіба не баліць дрэўцу, калі паласнуць яго нажом па ствале?..

Дарослымі мы ўпэўнены: не баліць. Такія неабвержныя доказы навукі. Але раптам у самой навуцы здараецца нешта такое, што здзіўляе больш, чым касманаўты на Месяцы. І высвятляецца, што наіўныя нашыя дзіцячыя ўяўленні не такія ўжо беспадстаўныя, каб выклікаць толькі паблажлівую ўсмешку.

Савецкі вучоны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі прафесар І. І. Гунар і амерыканец Бэкстэр незалежна адзін ад аднаго правялі серыю доследаў над раслінамі пры дапамозе электронных датчыкаў. Датчыкі рэгістравалі «ўнутраны» стан расліны, яе рэагаванне на знешнія раздражняльнікі. У спакойнай абстаноўцы самапісцы прыбораў рухаліся павольна, але як толькі да лістка расліны паднеслі полымя запалкі, расліна нібы «закрычала» ад болю — запіс самапісцаў адзначыў рэзкі падскок уверх. І справа тут не ў раптоўнай змене тэмпературы — вучоныя ўстанавілі, што біяпатэнцыялы раслін нагадваюць біяпатэнцыялы жывёл, што ў раслін існуе нешта накшталт нервовага імпульсу, што ў іх, відаць, ёсць цэнтр прыёму інфармацыі, якая паступае з навакольнага асяроддзя, што ў іх ёсць нават элементы памяці, свая «мова»...

Вы запытаеце, якое дачыненне ўсё гэта мае да фільма рэжысёра Юрыя Лысятава «Лес»? Адкажу вершамі Някрасава:

Плакала Саша, як лес высякалі,
Лесу і сёння шкада ёй да слёз.
Колькі было кучаравых бяроз!
Там, з-за насупленай, цёмнай яліны
Ззялі чырвоныя гронкі каліны,
Юны дубок узнімаўся вясной,
Птушкі ўладалі вяршыняй лясной...

А засталіся пні. І кожнае дрэва, кожная яліна і сасна, кожная бярозка, кожны клён адчулі, як падсекла іх электрычная піла, як зубы яе ўеліся ў жывое цела. І ніхто не пачуў іхняга стогну — толькі жанчына, якая ўсё сваё жыццё вырошчвала і вырошчвае лес...

Аднак фільм Юрыя Лысятава зроблены не для таго, каб сентыментальна паўздыхаць над лёсам лесу. Лес павінен служыць людзям, і менавіта ў гэтым яго лёс.

Скрыпка Давіда Ойстраха і раяль Святаслава Рыхтэра, калыска, у якой мы плылі немаўляткамі, і партызанская зямлянка ў час Вялікай Айчыннай, шырокі бяседны стол і апора ў шахце, рама акна, у якое глядзіць сонца, і папера, на якой друкуецца Купалаў верш — усё гэта лес. І яшчэ

# ВОКЛАДКАЙ

...гераінях і пакутніцах, якія ў саміх сабе носяць боль і страты нядаўніх часоў, будзе вечная...

**Ч**АМУ ТАК ці інакш дзейнічаюць літаратурныя героі? Адказ трэба шукаць у філасофіі твораў — як мадэлі свету, якім яго бачыць і хацеў бы бачыць мастак. Калькі б ён ні сцвярджаў, што «піша з натуры», персанажы — гэта філасофскі, этычны і палітычны слоўнік самога аўтара.

Гэты слоўнік беспамылкова чытаецца ў аповесці Алеся Савіцкага «Самы высокі паверх», прысвечанай працы і побыту моладзі з невялікай будаўніча-мантажнай брыгады. Аўтар лічыць, што жыццёвыя даброты, купленыя цаной подласці і здрадніцтва, не гарантуюць шчасця (Віктар Зубок); што шчасце дасягальнае толькі ў падзвіжніцкай барацьбе за агульную справу (Леанід Бугрым); што ўмовай поспеху гэтай барацьбы павінна быць падтрымка калектыву (Барыс, Рагач, Зіна Гарошка, Казімір) і вернае каханне (Валя). Як бачым, у гэтай пазіцыі няма ніякай складанасці. Яна простая і даступная.

Тады ў чым жа сакрэт таго, што аповесць Савіцкага чытаецца з цікавасцю? Мне здаецца, галоўная яе вартасць заключана ў пазітыўным вырашэнні праблемы чалавечага лёсу.

Прасочваючы жыццё Леаніда Бугрыма, мы зноў і зноў пераконваемся, што чалавек — вяршыцель свайго лёсу. А галоўная велічыня, якая вызначае лёс у разуменні пісьменніка — грамадска-карысная праца. Не выпадкова ў яго аповесці столькі ўвагі ўдзелена працы як крыніцы паэзіі і радасці.

Сапраўды, чалавек, які працуе з захапленнем, становіцца дабрэйшым, прыгажэйшым. І вельмі правільна, што «ў жыцці кожнага чалавека павінен быць самы высокі паверх, такая мяжа, пераступіўшы якую, ты адкідваеш усё тое дрэннае, што ў табе, і робішся чысцейшы, больш мужны і смелы, робішся сапраўдным чалавекам...»

Даўно ўжо заўважана і пераканаўча растлумачана, якое значэнне для мастака мае маштаб героя. Маштаб героя гэта не значыць герой з пэўным грамадскім становішчам — ён можа займаць любое месца на любым флангу сацыяльных тыпажоў. Маштаб героя гэта перш за ўсё адбор такога характару, які ўбірае і выказвае сваім вопытам асноўную праблематыку часу.

З гэтага пункту гледжання Савіцкаму, літаратурнае майстэрства якога ў нашай прозе за апошні час значна ўзрасло, можна і трэба прад'явіць пэўныя прэтэнзіі. Ствараецца часам ураканне, што пісьменнік заніжае творчыя патрабаванні да самога сябе, не выкарыстоўвае тых магчымасцей, якімі валодае, гэта бачыцца пры старанным аналізе яго аповесці.

А. Савіцкаму ўдаюцца буйныя палотны аб сучаснасці. Ён — пісьменнік са сваім стылем, чулы і ўважлівы да гукаў, фарбаў і форм акаляючага свету. Часам ён залішне суб'ектыўны ў светаўспрыняцці, але гэта не змяншае яго здольнасці бачыць нашу рэчаіснасць з «самага высокага паверха» і пераканаўча расказваць аб сваіх адкрыццях, сумненнях і думах.

ПОВЕСЦЬ Валянціна Мысліўца «Наддзвінскі летапіс» не пакідае чытача абыякавым, і перш за ўсё сваёй тэматыкай. У свабоднай манеры пісьменнік расказвае аб будаўніках Навапалацкага нафтаперапрацоўчага завода. На нашых вачах прабягаюць дзесяць гадоў напружанай працы і складанага побыту піянераў новабудоўлі — ад першага калочка на полі да першага бензіну і поліэтылену, ад перапоўненай вясковай хаты на ўскрайку лесу, у якім па начах выюць ваўкі, да цудоўнага горада з палацам культуры, школай і паліклінікай. Аповесць складаецца з асобных сцэн, звязаных адзінай задумай, і пакідае прыемнае ўражанне сваёй дынамікай і дакладным веданнем дэталяў.

Канкрэтнае веданне людзей, іх побыту, іх праблем — глеба, на якой толькі і можа выспець сапраўдны талент. Мыслівец мае гэтыя веды і ўмее бачыць рэчы з цікавага і павучальнага боку.

«Наддзвінскі летапіс» — гэта цэлая чарада герояў, цэлая галерэя партрэтаў, часам выпуклых і жывых, часам толькі намечаных лёгкімі, ледзь прыкметнымі штрыхамі.

Па-філасофску глыбокі, хоць і не заўсёды дакладны, вобраз брыгадзіра Васіля Купчэні, абаяльны вобраз Пятра Блахіна, тынкоўшчыка, а пазней важака заводскай камсамоліі. нядрэнна распрацаваны характары Лакшына, Палеткі, Тачі, Анюты і Зіны Шубінай.

Матэрыял штурхаў да магчыма больш шырокага ахопу падзей, да нарысавага характару. Але Мысліўец усё ж пераступіў грань, зрабіўшы залішні ўпор на нарысавасць, — аповесці не хапае мастацкай пераканаўчасці.

Нарыс мае свае жанравыя межы. І аўтар нібы забыўся, што чытачу важны не толькі факт, адлюстраваны летапісцам, — намнога важнейшая логіка гэтага факта, яго значэнне ў чарзе падзей, роля ў чалавечым лёсе. Знешнія апісанні ў Мысліўца пераважаюць над «унутраным жывапісам»: аповесць беднаватая індывідуальным, душэўным жыццём герояў на зломах уласных лёсаў.

Вось, напрыклад, адзін з лепшых раздзелаў аповесці — «Аксіння Мелехава». Пісьменнік намацаў багаты і маларaспрацаваны пласт чалавечых перажыванняў — пакуты бязмужняй казачкі, якая прагне сустрэч з прывабным спакуснікам і фігляром Палеткам, але якую кожны раз зневажае пошласць яго абдымкаў. Лёгкі стылістычны паварот мог закончыцца найтанчэйшым псіхалагізмам і незвычайнай лірычнасцю. Замест гэтага — інфармацыя «ў лоб», якая ўзрушвае толькі як адзінкавы факт, а не як мастацкае абагульненне.

Характэрны для сённяшняга дня ўсе дэталі, падмечаныя пісьменнікам. Многія з іх — філасофскае абагульненне даволі важных праблем сучаснасці: ролі працы ў працэсе самаразвіцця асобы і веры ў высокія ідэалы.

В. Мысліўец выяўляе прыймальны, на маю думку, крытэрый маральных ацэнак — адносіны да людзей, якія вызначаюць грамадскі прагрэс. І ўжо, напрыклад, па тым, як ставяцца рабочыя да свайго брыгадзіра Купчына, мы дзелім іх на дрэнных і добрых людзей.

Вобраз рабочага чалавека — ужо не рэдкасць у беларускай прозе, за адну толькі актуальнасць тэматыкі апладысментаў у публікі не збярэш. Трэба не толькі мастацкая яркасць, не толькі глыбіня псіхалагічнага аналізу, але і высокая ступень інтэлектуальнасці, бо чытач наш ужо не прымае абы што.

Але стракатасць і вымучванне думкі там, дзе для яе няма глебы, — таксама не выхад са становішча. Добра, што Мысліўец валодае пачуццём меры: ён нідзе не перасольвае. І ўжо калі за што і хваліць яго прозу, дык перш за ўсё за тую святую прастату, перад якой заўсёды пасуе прэтэнцыёзнасць. Учытайцеся ў раздзелы, дзе пісьменнік апавядае пра стварэнне творчага рабочага калектыву, — нічога надуманага, нічога лішняга, затое якое адчуванне ўсемагутнасці і харастве людзей, аб'яднаных у адзіным творчым парыве!

**М**Ы ПАЗНАЁМІЛІСЯ з аповесцямі шасці сучасных беларускіх пісьменнікаў. Розныя па свайму таленту, па асаблівасцях мастацкага вопыту, па спосабах узнаўлення свету, усе яны адзіныя ў сумленнай, партыйнай зацікаўленасці ў савецкім мастацтве, у высокай культуры народа, у вернасці яго традыцыям і яго марам; усе яны шукаюць разумнага героя дзеяння, які актыўна ўмешваецца ў жыццё. Далёкая гісторыя перамешваецца з падзеямі ўсё яшчэ жывой у памяці пакаленняў Айчыннай вайны, гады партызанскай барацьбы і фашысцкай акупацыі змяняюцца гадамі натхнёнай і радаснай стваральнай працы.

Некалькі слоў аб культуры перакладаў. У цэлым яны ўдаліся. Іх зрабілі кваліфікаваныя пісьменнікі, знаўцы рускай мовы, якія з любоўю адносяцца да беларускай літаратуры: П. Кабзарэўскі, М. Гарбачоў, А. Астроўскі, Г. Папоў, А. Бялоў. І тым больш прыкра, што ў перакладах сустракаюцца вельмі спрэчныя месцы і нават ляпсусы.

Хацелася б зрабіць маленькі папрок і ў адрас выдаўцоў. Усе яны добра ведаюць, што кніга — падручнік жыцця, што ў гэтым падручніку не павінна быць не толькі маральных, але і граматычных памылак. Але, як відаць, рэдактарскі і карэктарскі кантроль у дадзеным выпадку быў не зусім строгі і пільны.

Сучасная беларуская літаратура характарызуецца глыбокай пастаяннай цікавасцю да радавога чалавека, ідэйнай стойкасцю, пераканаўчасцю, высокай мастацкасцю, а яшчэ — лірычнасцю, аптымізмам і жыццесцвярджальнай сілай. У гэтым яшчэ раз пераконвае калектыўны зборнік «Белорусские повести».

## СВЯТА КНІГІ



Ля кніжных столікаў на Цэнтральнай плошчы.

**Па традыцыі ў Дзень друку на прадпрыемствах рэспублікі, на плошчах і скверах гарадоў наладжваюцца кніжныя кірмашы. Лепшыя выданні цэнтральных і беларускіх выдавецтваў прапануюцца ўвазе шматлікіх аматараў кнігі.**

**Вялікі кніжны кірмаш адбыўся ў гэты дзень у Мінску на Цэнтральнай плошчы. Аб росце тыражоў выданняў у нашай краіне, аб небывалым попыце на кнігу і ролі яе ў жыцці савецкага чалавека, аб тых, хто прапагандуе кнігу — бібліятэкарах і прадаўцах, — гаварылі ў сваіх выступленнях намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. Ткачук, начальнік упраўлення кніжнага гандлю Л. Саслоўскі, пісьменнікі Ул. Карпаў і Р. Сабаленка.**

**...У доўгі рад выстраіліся, нібы на парад, кніжныя столікі. На іх — кнігі на розныя густы і ўзросты: для дзяцей, юнацтва, мастацкая, палітычная, навукова-тэхнічная, медыцынская і іншая літаратура. Да столікаў не прабіцца. Аматараў кнігі на кірмаш прыйшло многа.**

**Адначасова і на трактарным заводзе магазін № 9 разам з грамадскімі арганізацыямі прадпрыемства пачалі 5 мая «Дэкаду кнігі». Быў арганізаваны вялікі кніжны кірмаш. У цэхах завода на працягу дэкады грамадскія распаўсюджвальнікі друку арганізуюць шырокі продаж літаратуры па розных галінах ведаў. Аб'яўлен конкурс на лепшую цэхавую камсамольскую арганізацыю, якая найбольш распаўсюдзіць кніг у сваім калектыве і ў рабочых інтэрнатах. Завершыцца дэкада вечарам сяброў кнігі, на якім трактаразаводцы сустрэнуцца з беларускімі пісьменнікамі.**

**Свята кнігі, якое праходзіць цяпер у рэспубліцы, у мінскай кнігарні № 16, дзе працуе брыгада камуністычнай працы (загадчыца Соф'я Жыбулеўская), пачалося крыху раней. У сярэдніх школах свайго мікрараёна №№ 60, 80 і 101, у клубе тонкасуконнага камбіната і інтэрнатах у красавіку адбылося некалькі цікавых сустрэч з беларускімі пісьменнікамі. Частымі гасцямі бываюць тут Мікола Аўрамчык, Васіль Зуёнак, Уладзімір Карпаў і іншыя літаратары. Сяброўскія гутаркі пісьменнікаў з чытачамі, іх парады спрыяюць распаўсюджванню кнігі. У выніку садружнасці аўтара і прадаўцоў чытачы набылі каля 800 экземпляраў рамана «Нямігі крывавыя берагі» і многа іншых твораў беларускіх пісьменнікаў. Вядома, нямала зрабілі і грамадскія распаўсюджвальнікі. У 101-й сярэдняй школе, напрыклад, добра працуе народны кніжны кіёск «Крыніца», які ўзначальвае вучань сёмага класа Віця Манаеў. Актыўна памагае яму бібліятэкар школы Алена Ярмолінская.**

*З пошты ЛіМа*

## ІШОЎ ТРЭЦІ, МІРНЫ...

Паважаная рэдакцыя, добры дзень!

Толькі што адсвяткавалі мы Дзень Перамогі. Успамінаецца мне, як шмат год таму маці ўзяла мяне, малога хлапчука, на могілкі. Была якраз радаўніца. У той год яна супала з Днём Перамогі. Дзень выдаўся сонечны, цёплы, людзі ішлі і ішлі на могілкі. Ішлі і тыя, хто не верыў у бога, хто не святкаваў радаўніцу, а святкаваў Дзень Перамогі. Многія былі ў шынялях і гімнасцёрках. Не толькі таму, што нядаўна скончылася вайна, а і таму, што не было іншага адзення. Але на могілкі людзі ішлі апранутыя па-святочнаму, прыгожыя. Ішлі, каб пабыць са сваімі роднымі — памёршымі, забітымі... Могілкі пасыпалі жоўтым пяском, садзілі дрэўцы, кветкі. Самі магілы засцілалі абрусамі — ільнянымі, саматканымі, вышыванымі, набіўнымі, звязанымі кручком і на раме. У каго не было абрусаў, засцілалі посцілкамі, якія сцелюць на ложку, ці прасцінамі з палатна, выбеленага на сонцы і пакачанага качалкамі. Каля крыжоў, дрэўцаў, якія замянялі крыжы, клалі пафарбаваныя яйкі, кавалкі булкі (якія былі тады булкі, цяпер хлеб лепшы за тыя булкі).

Маці падвяла мяне да вялікай, як града ў гародзе, магілы і сказала, што тут пахаваны мой бацька. Я здзівіўся, — пэўна мой бацька быў вялікі і мажны, таму і магіла такая вялікая ў яго.

Сталі падыходзіць іншыя жанчыны, дзеці. Мужчын амаль не было. Жанчыны пачалі засцілаць вялікую магілу майго бацькі хто чым, а я зноў здзівіўся. Пэўна, майго бацьку ведала не толькі цётка Ксенка, у якой мы жылі, калі нашу хату спалілі немцы, а і вунь тая, якую ўсе з павагай завуць баба Куліна, і тая, што завуць Шляхціха, і тыя, што зусім чужыя. Пазней я пачуў ад дзяцей, якія былі большыя за мяне, што ў гэтай вялікай магілеградзе пахаваны мой бацька, але ён ляжыць вось тут з краю, а побач з ім ляжыць муж Шляхціхі, а далей — муж бабы Куліны, потым муж вунь той цёткі, што з суседняй вёскі Балотня, а потым той цёткі, што са Стараселля. Усіх іх расстралялі немцы за тое, што яны дапамагалі партызанам. Расстралялі ў сасонніку, пад бальніцай, куды маці з цёткай Ксенкай ездзілі на саначках па дровы. А сюды жанчыны перавезлі сваіх мёртвых мужоў і пахавалі ў адной магіле.

Вось паселі мы на ўскрай магілы. Дзяцей было больш, чым дарослых. Мужчын не было за нашай магілай, яны ўсе былі ў магіле. Жанчыны пачалі даставаць з вузлоў ежу. Запахла салам, нечым салодкім, смятанай і іншымі смачнымі пахамі. Жанчыны выпілі нечага мутнага і нясмачнага, таму што ўсе адразу зморшчыліся. Жанчыны казалі, што п'юць удовіны слёзы. Я бачыў, як маці часта плакала дома, але каб яна збірала слёзы ў бутэльку, не бачыў.

Усе пачалі есці. Елі са сваіх і чужых місак, ніхто не сварыўся. Кожная жанчына хацела, каб мы паспрабавалі яе абаранкаў, каржоў або аладак. Нехта падаў і мне аладку, яна была вялікая, слізкая ад смятаны. Трымаў я яе дзвюма рукамі, а калі адкусіў, аладка растаяла ў роце. Дома мы елі аладкі, але яны былі з мёрзлай бульбы, якую маці збірала ў полі. А гэта аладка была з мукі ды яшчэ ў смятане.

Ішлі гады. Кожную радаўніцу прыходзілі мы на могілкі да сваіх бацькоў. Кожную радаўніцу прыносіла тая жанчына з Балотні аладкі ў смятане. Мы, малыя, раслі, я пачаў разумець, што аладкі тыя з простай жытняй мукі, якую змалолі на дамашніх жорнах, мука грубая, а аладкі смачнымі былі таму, што мукі ні ў кога не было.

І вось зараз, праз дваццаць чатыры гады, я зноў паехаў з маці з Гомеля ў Журавічы, на радаўніцу, да бацькі. Людзей таксама было шмат. Пілі за бацькоў, елі добрае, смачнае — каўбасу, рыбу, мяса, пірагі, нават пірожнае. А ў вачах стаяў твар бацькі. Казалі — калі іх расстрэльвалі, дык ставілі тварам да ямы. Стралялі разрыўнымі кулямі, усе былі без твараў, а мой бацька перавярнуўся тварам да забойцаў, твар і застаўся цэлы. Я яго ніколі не бачыў, але ёсць фотакартка. Вось і стаіць у вачах твар бацькі.

...Піражнае перасядзла ў горле і хацелася тых жытніх аладак, але жанчына з Балотні ў гэты раз не прыйшла...

**Васіль ВІННІКАЎ.**

# ПРАНІКАЮЧЫ Ў ГЛЫБІНІ

**ЗА ДЫРЫЖОРСКІМ ПУЛЬТАМ — УЛАДЗІМІР МАШЭНСКІ**

Крыху больш года, як на афішах Беларускага дзяржаўнага Вялікага тэатра оперы і балета з'явілася імя У. Машэнскага. Але па тым, з якім тонкім густам, як своеасабліва раскрывае малады дырыжор перад слухачамі глыбіні музыкі, як умее падначаліць музыку сцэнічнаму дзеянню, зразумела, што ў тэатры працуе цікавы мастак.

Сімфанічным дырыжыраваннем Уладзімір Машэнскі пачаў займацца ў семінары Маскоўскай кансерваторыі пад кіраўніцтвам выдатнага французскага дырыжора рускага паходжання І. Маркевіча. У 1965 годзе У. Машэнскі заканчвае факультэт оперна-сімфанічнага дырыжыравання па класе прафесара А. Шарашэўскага, а потым у яго ж займаецца ў аспірантуры. Чалавек надзвычай артыстычны, з цудоўным музычным чуццём, Шарашэўскі вучыць свайго выхаванца пранікаць у сутнасць, у душу твора.



У аспірантуры Машэнскі праходзіць стажыроўку ў сімфанічным аркестры Маскоўскай дзяржаўнай філармоніі. Тут ён мае магчымасць назіраць за работай дырыжораў краіны і замежных майстроў: М. Рабіновіча, К. Кандрашына, К. Зандэрлінга, П. Клецкі, І. Маркевіча.

21 студзеня 1968 года адбыўся дэбют У. Машэнскага ў канцэртнай зале імя П. Чайкоўскага, дзе ім былі паспяхова выкананы ўверцюра Леанора № 3, Сёмая сімфонія і Пяты фартэпіянны канцэрт Бетховена. Далей быў шэраг гастрольных паездак: Ульянаўск, Курск, Разань, потым — Югаславія. У яго праграмах прагучалі сімфоніі Шуберта, Трэцяя сімфонія і Скіфская сюіта Пракоф'ева, варыяцыі Брамса на тэму Гайдна, творы Равэля, Стравінскага і многія іншыя творы.

Адначасова У. Машэнскі выкладае ў Маскоўскай кансерваторыі на кафедры опернай падрыхтоўкі. У опернай студыі пры кансерваторыі ён прадырыжыраваў спектаклямі «Служанка-гаспадыня» Пергалезі, «Вяселле Фігара» і «Басцьен і Басцьена» Моцарта, «Багема» Пучыні, «Яўгеній Анегін» Чайкоўскага, «Дуэння» Пракоф'ева.

Паспяховы дэбют Машэнскага ў Мінску ў спектаклі «Яўгеній Анегін» у кастрычніку 1970 года звязаў дырыжора з калектывам Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. Малады дырыжор спадабаўся і аркестрантам, і спевакам: ён адразу адчувае рытм сцэнічнага дзеяння, дыханне выканаўцаў, калі ён кіруе аркестрам, спяваць лёгка і зручна; дырыжор і вядзе саліста, і разам з тым як бы ідзе за ім, даючы яму магчымасць праявіць сябе. Гранічна патрабавальны на рэпетыцыях, Машэнскі ўмее быць клапатлівым і чулым на спектаклі.

У тэхніцы дырыжыравання Машэнскага прыкметная схільнасць да простых рухаў, эмацыянальны сэнс якіх абсалютна ясны. Яго жэсты не вызначаюцца асаблівай пластыкай. І ўсё-такі сачыць за яго рукамі цікава. Наступаюць моманты, калі раптам пачынаеш рэальна адчуваць, як дырыжорскія рукі твораць музыку. Вось яны рэзка ўзлятаюць, утвараючы круг над галавой, нібы памагаючы вырвацца бурнаму патоку музыкі, то раптам дырыжор нагінаецца да аркестра і пальцы просяць: «Цішэй, цішэй».

Спалучэнне стрыманасці і яснасці з адкрытай эмацыянальнасцю — вось асаблівасць майстэрства У. Машэнскага.

Аб змесце работы маладога дырыжора ў Мінску красамоўна гаворыць спіс опер і балетаў, якімі ён ужо дырыжыраваў. «Яўгеній Анегін» Чайкоўскага, «Багема» Пучыні, «Пасля балю» Г. Вагнера, «Травіята» Вердзі, трыпціх аднаактовых балетаў («Гарэзлівыя прыпеўкі» Шчадрына, «Трыстан і Ізольда» Р. Вагнера, «Балеро» Равэля), «Рамеа і Джульета» Пракоф'ева, «Тоска» Пучыні, «Хаваншчына» Мусаргскага. «Пасля балю» і балетны трыпціх — прэм'еры Машэнскага ў Мінску.

З вялікім захапленнем працаваў Машэнскі над балетам Г. Вагнера «Пасля балю». Гэта была першая сур'ёзная сустрэча дырыжора з новым матэрыялам, яшчэ невядомым, неасвоеным, які не меў традыцый выканання. Упершыню ў гісторыі харэаграфічнага мастацтва Г. Вагнер напісаў музыку балета на матэрыяле твора Л. Талстога. І дырыжор паказаў сябе сур'ёзным, самастойным, цікавым інтэрпрэтатарам.

Другое стагоддзе жыве на сцэне опера Дж. Вердзі «Травіята» і займае адно з першых месц у рэпертуары як савецкіх, так і зарубежных тэатраў. Натуральна, што яна абрасла мноствам штампаў, над ёй уладарна гаспадараць традыцыі. Добра вывучыўшы вопыт сваіх папярэднікаў, У. Машэнскі паспрабаваў прачытаць партытуру «Травіяты» нібы ўпершыню. І менавіта беражлівае вяртанне да аўтарскага тэксту прынесла дырыжору шчаслівыя выканаўчыя знаходкі. У прыватнасці, Машэнскі ўзнавіў цэлы рад паўтораў, якіх няма ў большасці пастановак гэтай оперы на тэатральнай сцэне. Напрыклад, сцэна Віялеты і Жэрмона ў другім акце, дуэт Альфрэда і Віялеты ў чацвёртым акце. Беражлівае стаўленне да аўтарскага тэксту дазволіла дырыжору перагледзець некаторыя традыцыйныя змены тэмпаў. Яркі прыклад таму — славутая застольная Альфрэда ў фінале трэцяй дзеі, у якой У. Машэнскі адмовіўся ад неабгрунтаваных запаволенняў тэмпу ў канцы кожнага куплета.

Адзначаючы асаблівасці трактоўкі гэтага спектакля, хочацца адзначыць у «Травіяце» імкненне дырыжора да падкрэсленай драматызацыі, да гранічна напружанага выказвання пачуцця.

Як сур'ёзнае творчае дасягненне хочацца адзначыць другую прэм'еру Машэнскага — балетны трыпціх. Вострыя гумар, хвацкае, чыста народнае маладзецтва «Гарэзлівых прыпевак» змяняецца музыкай, поўнай пакут і велізарнага напалу пачуццяў Трыстана і Ізольды. Завяршае вечар аднаактовых балетаў эфектнае і папулярнае «Балеро» Равэля, якое вызначаецца напружанай дынамікай развіцця ярка нацыянальнай тэмы іспанскага танца. Найбольш цікавай з'яўляецца трактоўка Машэнскім балета «Трыстан і Ізольда». Дырыжор імкнецца перадаць разнастайнасць пачуццяў герояў — чаканне, адчай, прасвятленне, надзею, радасць... Адчуваецца, што музыка Р. Вагнера вельмі блізкая У. Машэнскаму.

Пры добрай у цэлым дырыжорскай тэхніцы, У. Машэнскаму ўсё ж часам не хапае адчування гучнасці аркестра «ў руках». Хацелася б, каб ён звяртаў больш ўвагі на вельмі важную ў музыцы розніцу паміж «фортэ» і «фартысіма». Не трэба забываць, што мацней уражвае тая кульмінацыя, дзе чутны ўсе кампаненты — і салісты, і хор, і аркестр.

Яшчэ недапрацаваныя ў дырыжора «Гарэзлівыя прыпеўкі» Р. Шчадрына. Некаторыя дасціпныя штрыхі яркай партытуры не даносяцца да слухача. Часта медныя і ўдарныя перакрываюць астатніх выканаўцаў і парушаюць тым самым баланс гучання.

У балеце «Рамеа і Джульета» У. Машэнскаму ўдалося пераканаўча ўвасобіць у музыцы вобразы зла. Змрочны, грозна ўладарны характар музыкі як нельга лепш малюе фанабэрыстасць феадальнай знаці. А вось музычнаму партрэту юнай Джульеты яшчэ не хапае эмацыянальнай выразнасці. Машэнскаму не ўдалося пранікнуць у глыбіню душы закаханай дзяўчыны, раскрыць яе чысціню і пяшчоту, ледзь улоўныя змены адценняў яе пачуццяў. Часам здаецца, што ў аркестра не хапае свабоды дыхання, што ігра неяк «заціснута», а ў асобных выпадках залішняя экспрэсія парушае характар музыкі.

Першыя спектаклі, натуральна, даюцца цяжка і, зразумела, шмат яшчэ трэба зрабіць дырыжору. Тым больш прыемна адзначыць, што многія творы ў яго інтэрпрэтацыі хвалююць, даюць глебу для роздуму. За пультам — малады мэтанакіраваны музыкант, шчыра адданы сваёй справе. Мы з нецярплівасцю чакаем яго новых работ.

**Яўгенія СЛАВІНА.**

# ВЫСОКІ СТРОЙ ДУШЫ

Маляўнічыя афішы запрашаюць на канцэрт лаўрэата Усесаюзнага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах Мікалая Прашко. Не многія балалаечнікі краіны атрымалі права на сольныя выступленні. У нашай рэспубліцы—толькі Мікалай Прашко.

Упэўнена і спакойна выходзіць ён з-за куліс, садзіцца, падстройвае інструмент, і зала напаўняецца ўрачыстымі гукамі паланеза В. Андрэева, якім звычайна пачынаюцца канцэрты артыста. Затым дзве-тры народныя песні, выкананыя як бы на адным дыханні, і вось вядучы аб'яўляе: «Ліст, Венгерская рапсодыя № 2». Я не памятаю выпадку, каб М. Прашко не быў узнагароджаны за выкананне рапсодыі літаральна шквалам апладысментаў. Менавіта з гэтага твора ўстанаўліваецца тая сапраўды сяброўская атмасфера ў зале, у якой, як гаворыць Мікалай Вікенцьевіч, працаваць — адна асалода.

Пятнаццаць гадоў назад М. Прашко скончыў Маскоўскі дзяржаўны музычна-педагагічны інстытут імя Гнесіных па класе заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР А. Ілюхіна і прыехаў на работу ў Мінск. Ужо праз год ён заваёўвае на Усесаюзным конкурсе ў Маскве сярэбраны медаль і званне лаўрэата і з таго часу пастаянна выступае ў канцэртах, па тэлебачанні і радыё.

Дадамо, што Мікалай Вікенцьевіч кіруе Мінскім музычным вучылішчам імя М. Глінкі, выкладае ў Белдзяржкансерваторыі імя А. Луначарскага, аказвае метадычную дапамогу музычным навучальным установам і калектывам мастацкай самадзейнасці, апрацоўвае беларускія народныя мелодыі, стварае арыгінальную музыку. Так, нядаўна Саюз кампазітараў БССР адобрыў яго «Піянерскую сюіту» з пяці частак, напісаную для юных балалаечнікаў, і варыяцыі на беларускую тэму для балалайкі сола. А рэспубліканскі дом народнай творчасці прыняў «Зборнік партытур» для розных саставаў народных інструментаў. У Маскве музычным выдавецтвам набыты «Эцюды» М. Прашко для балалайкі і «Беларускі карагодны танец» для аркестра народных інструментаў.

— Мне так шкада, што я многага не паспяваю,— гаворыць Мікалай Вікенцьевіч.— Вось нядаўна давялося пакінуць народны аркестр Белсаўпрофа, якім кіраваў пятнаццаць гадоў. Я заўсёды з удзячнасцю буду ўспамінаць гэтыя гады, якія вельмі многа далі мне як дырыжору, педагогу і аўтару.

Нядаўна нам з Прашко давялося разам прымаць удзел у канцэрце ў Стаўбцоўскай музычнай школе. Я спытаў, што ён будзе іграць, таму што наперад ведаў, што асноўнымі слухачамі будуць дзеці. Мікалай Вікенцьевіч адказаў:

— Іграць буду тое, што звычайна іграю для дарослых, толькі пастараюся іграць лепш.

І сапраўды, М. Прашко выступіў віртуозна. У рэпертуар ён уключыў «Канцэртныя варыяцыі» Будашкіна і рапсодыю Ліста, свае «Варыяцыі на беларускую тэму» і «Канцэрт».

Мне асабіста вельмі падабаецца, як М. Прашко выконвае творы родапачальніка рускага народнага аркестра В. Андрэева. Іграе ён непасрэдна, эмацыянальна, з добрым мастацкім густам, г. зн. без налёту той салоннай прытарнасці, якую часта можна чуць у інтэрпрэтацыі твораў Андрэева.

У творах буйнай формы Мікалай Прашко дэманструе не толькі віртуозную тэхніку ігры, але і глыбокае разуменне зместу твора, дасканалае яго ўвасабленне.

Асабліва трэба сказаць аб жывой, пранікнёнай інтэрпрэтацыі народных рускіх і беларускіх песень.

Мікалай Вікенцьевіч з самага ранняга дзяцінства пранікся любоўю да народных песень. У беларускай вёсцы Хвасты Браслаўскага раёна, дзе нарадзіўся будучы музыкант, любілі і цанілі песню. Уся сям'я Прашко была музыкальнай. Бацька, па прафесіі сталяр, часта пасля работы браў у рукі гармонік, маці — гітару, старэйшы брат — цымбалы, а маленькі Коля падсаджваўся да іх з балалайкай. І тады дом напаўняўся музыкай, у якой гучалі «то разгулье удалое, то сердечная тоска». Як правіла, гэта былі беларускія народныя песні і танцы «Крыжачок», «Лявоніха», «Таўкачыкі», «Бульба», «Мяцеліца», «Перапёлачка» і іншыя. Стаўшы прафесійным музыкантам, Мікалай Прашко ніколі не расстаецца з любімымі з дзяцінства роднымі напевамі.

За апошнія некалькі месяцаў М. Прашко даў канцэрты ў Мінску і Барысаве, Маладзечна і Баранавічах, а таксама на рэспубліканскім тэлебачанні і радыё. Поспеху яго канцэртаў нямала садзейнічае Серафіма Бялькевіч, выдатны канцэртмайстар, які чула і тонка адчувае стыхію саліста.

— Мікалай Вікенцьевіч — чалавек неспакойны, творчы, ён заўсёды ў пошуках новага,— гаворыць народны артыст СССР, прафесар І. Жыновіч.— Я цаню яго і як таленавітага музыканта, і як выдатнага педагога.

**М. СОЛАПАЎ,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР.**

**НАВІНКІ ГРАМЗАПІСУ**

# СПЯВАЕ ІГАР САРОКІН

*За мінулыя сем гадоў (з моманту выхаду цудоўнага запісу оперы «Арэстэя» С. Танеева) мы мелі магчымасць слухаць беларускіх оперных спевакоў у грамзапісах фірмы «Мелодыя» ўсяго толькі чатыры разы: фрагменты з оперы Я. Цікоцкага «Алеся», канцэрты З. Бабія і Н. Ткачэнка і «гранд» з канцэртам оперных спевакоў Беларусі.*

*І вось новая пласцінка—першы «стэрэагігант» народнага артыста БССР Ігара Сарокіна.*

*Запіс данёс артыстычную абаяльнасць Сарокіна, уменне ствараць цікавыя псіхалагічнай вобразнасцю замалёўкі; майстэрства глыбокага пранікнення ў музычна-драматургічны вобраз.*

*Проста, без напружання, роўна гучыць ва ўсіх рэгістрах арыя Шаклавітага з «Барыса Гадунова». Арыёза Роберта, арыя Ялецкага і арыёза Мазепы з опер «Іяланта», «Пікавая дама» і «Мазепа» Чайкоўскага адзначаны рэдкім стылявым адзінствам і па характары прачытання складаюць своеасаблівы трыпціх.*

*Хвалюе філасофскае прачытанне І. Сарокіным маналогу Рыгалета. Вельмі экспрэсійнае гучанне голасу спевака ў арыі Гразнога. Тут уражвае глыбокае разуменне духу музыкі Рымскага-Корсакава, беражлівае стаўленне да захавання яе рытміка-інтанацыйнага ладу і, канечне, хвалюючы драматызм у перадачы пакут аслепленага страсцю Гразнога.*

*У пралогу з оперы Леанкавала «Паяцы» і ў арыі Жэрара з оперы Джардана «Андрэ Шэнье» спявак стварае зрокава адчувальную атмасферу непасрэднага кантакту.*

*Упершыню запісана «Мелодыяй» арыя Гельнера з оперы «Валі» Каталіні. Яе, як і ўсе арыі з опер італьянскіх кампазітараў, І. Сарокін выконвае на мове арыгіналу.*

*Цудоўна гучыць ва ўсіх рэгістрах аркестр Вялікага тэатра Саюза ССР пад кіраўніцтвам народнага артыста РСФСР, прафесара Б. Хайкіна.*

*Хочацца адзначыць тэхнічную дасканаласць стэрэафанічнага запісу, які дакладна ўзнаўляе дынамічныя кантрасты, якімі так умела карыстаецца І. Сарокін.*

**Ул. ЯФРЭМАЎ.**

# УПЕРШЫНЮ НА БЕЛАРУСІ

*АДКРЫЦЦЕ МЕМАРЫЯЛЬНАЙ ДОШКІ У ГОНАР СЫМОНА БУДНАГА*




Слаўныя традыцыі беларускага кнігадрукавання бяруць пачатак у сівой даўніне. Пачатак беларускаму кніжнаму слову быў пакладзены, як вядома, пражскімі (1517) і віленскімі (1525) выданнямі нашага першадрукара Францішка Скарыны. Выдатным прадаўжальнікам справы Скарыны быў Сымон Будны.

У XVI стагоддзі кнігадрукаванне мела значнае пашырэнне на Беларусі. Працавалі друкарні ў Брэсце, Нясвіжы, Заслаўі, Лоску, Заблудаве. Асабліва цікавыя старонкі гісторыі беларускай кнігі звязаны з Нясвіжскай друкарняй. Тут у 1562 годзе наш гуманіст і асветнік Сымон Будны разам са сваімі паплечнікамі Л. Крышкоўскім і М. Кавячынскім выдаў свой «Катэхізіс». Гэта была першая друкаваная кніга на беларускай мове, выдадзеная на тэрыторыі Беларусі.

Ідэолаг рэфармацыі, гуманіст, асветнік і філосаф Сымон Будны атрымаў адукацыю ў Кракаве. Працаваў настаўнікам у Віленскай пратэстанцкай школе, затым — кальвінісцкім прапаведнікам у Клецку. Шырока адукаваны чалавек, Сымон Будны становіцца відным дзеячом рэфармацыі на Беларусі. Ён адмаўляе многія дагматы хрысціянскай царквы, не згаджаецца з вучэннем аб троіцы, адмаўляе боскасць Хрыста, падвяргае крытыцы «свяшчэннае пісанне», сумняваецца ў існаванні душы асобна ад цела. Рацыяналізм Буднага абуджаў, па сутнасці, атэістычную думку ў часы засілля рэлігіі.

Будучы прагрэсіўным чалавекам сваёй эпохі, Сымон Будны не мог раўнадушна адносіцца да сацыяльнага ладу Рэчы Паспалітай. Ён быў прыхільнікам абмежавання правоў феадалаў, выступаў за роўнасць усіх саслоўяў перад законам, асуджаў захопніцкія войны, змагаўся супраць невуцтва і цемры, выступаў за аб'яднанне ўсіх славянскіх народаў. Гэтыя ідэі ён праводзіў і ў сваёй выдавецкай дзейнасці — спачатку ў Нясвіжы, а затым у Лоску.

З таго часу мінула больш чым 400 гадоў. Але наш народ помніць і шануе памяць свайго выдатнага асветніка і гуманіста. 5 мая, у Дзень друку, жыхары Нясвіжа сабраліся ля старажытнага будынка, у якім зараз месціцца раённая друкарня імя Сымона Буднага. Тут адбыўся ўрачысты мітынг, прысвечаны адкрыццю мемарыяльнай дошкі ў гонар слаўнага друкара і асветніка. Мітынг адкрыў старшыня райвыканкома Я. Еўсючэня. Пра значэнне дзейнасці Сымона Буднага гаварылі на мітынгу другі сакратар Нясвіжскага райкома партыі А. Бабіч, рэдактар раённай газеты «Чырвоны сцяг» І. Тартоўскі, загадчык раённай бібліятэкі В. Карунная, ганаровы калгаснік калгаса «Ленінскі шлях» В. Сарока, паэт Паўлюк Пранузa.

На дошцы, устаноўленай на старадаўнім муры, барэльеф Сымона Буднага і словы: «У 1562 годзе ў Нясвіжы выдатным дзеячом культуры, асветнікам і гуманістам Сымонам Будным былі выдадзены першыя на тэрыторыі Беларусі друкаваныя беларускія кнігі».

**А. БАЖОК.**

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЭКСЛІБРЫСА




У ліпені мінулага года на Рыжскім узмор'і ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР імя Райніса была наладжана выстаўка маіх экслібрысаў.

Шчыра кажучы, я вельмі хваляваўся — гэта была першая персанальная выстаўка маіх экслібрысаў, ды і аўдыторыя была незвычайная, вельмі патрабавальная — у той час там адпачывала шмат выдатных савецкіх пісьменнікаў.

Але хваляванне маё было дарэмным — гледачы прынялі выстаўку прыхільна, са мной шчыра гутарылі пра кніжныя знакі, зробленыя мной, Марыэта Шагінян, Іван Мележ, Ніл Гілевіч, Мікалай Томан, Віктар Важдаеў, Сяргей Смірноў.

Да гэтага часу захаваліся ў мяне іх запісы ў кнізе водгукаў. Марыэта Сяргееўна Шагінян напісала: «З вялікай цікавасцю глядзелі мы, пісьменнікі, цудоўную выстаўку ex libris мастака Яўгена Мікалаевіча Ціхановіча. На жаль, гэтае рэдкае і тонкае мастацтва, якое калісьці абавязкова ўпрыгожвала прыватныя бібліятэкі, зараз не вельмі культывуецца, а яго трэба было б аднавіць.

Асабіста мне выстаўка прыйшлася **вельмі** па душы. Многім ex libris я проста зайздрошчу. Сардэчна дзякую паважанаму Яўгену Мікалаевічу за дастаўленую эстэтычную асалоду».

Там жа ў Булдуры, разглядаючы экслібрыс беларускага драматурга і крытыка Яўгена Рамановіча, Марыэта Сяргееўна сказала мне:

— А чаму б вам не зрабіць экслібрыс Аркадзію Райкіну да яго шасцідзесяцігоддзя?

Гэтыя словы далі штуршок маёй фантазіі і, вярнуўшыся дамоў, я засеў за работу.

Нарэшце экслібрыс быў зроблены і «адціснуты». Але ў экслібрысістаў існуе няпісаны закон — работа мастака павінна быць прынята чалавекам, для якога зроблены экслібрыс. Неўхвалены ўладальнікам кніжны знак не лічыцца дзейным і ні ў якім разе не можа быць тыражыраваны і распаўсюджаны.

Таму я і паслаў зроблены для Аркадзія Райкіна экслібрыс у Ленінград.

Праз некаторы час прыйшоў ліст ад Райкіна, у якім быў мой экслібрыс з аўтографам выдатнага артыста. Такім чынам, кніжны знак Аркадзія Райкіна, калі можна так сказаць, нарадзіўся другі раз.

Зараз экслібрыс Аркадзія Райкіна можна сустрэць у калекцыях самых вядомых нашых і зарубежных калекцыянераў, ён экспанаваўся на шматлікіх выстаўках.

Я вельмі рады сёння, калі мінчане зноў сустракаюцца з цудоўным мастацтвам гэтага выдатнага артыста, прапанаваць увазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва» кніжны знак народнага артыста СССР Аркадзія Райкіна з яго аўтографам.

**Яўген ЦІХАНОВІЧ.**

